2019: Горача вітаем усіх прыхільнікаў «Народнай Волі»!

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадо...*
**Якуб КОЛАС**

№ 1 (4356)

4 студзеня 2019 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

**ДА ЎВАГІ ЧЫТАЧОЎ!**

Зноў з-за свята парушаецца графік выхаду “Народнай Волі” – наступны нумар, на жаль, з'явіцца толькі 9 студзеня.

**Рэдакцыя.**

АФІЦЫЙНА

## Недаступныя

Як паведамляе Міністэрства інфармацыі, на падставе рашэння суда Цэнтральнага раёна Мінска 2 студзеня быў закрыты доступ да шасці сайтаў за распаўсюджванне экстрэмісцкіх матэрыялаў.

Што гэта за сайты, не паведамляецца.

ГРОШЫ

## З новым курсам!

*У гэтым годзе долар расце другія таргі запар.*

Учора на Беларускай валютна-фондавай біржы курс долара зноў працягнуў рост – з 2,1701 да 2,1788 беларускага рубля і дасягнуў максімальнага ўзроўню за 1051 дзень (каля 2 гадоў і 10,5 месяца).

А вось курс еўра панізіўся – з 2,4865 да 2,4791 рубля. Расійская валюта таксама ўмацавалася: за 100 расійскіх рублёў учора давалі 3,1500 беларускага.

ПРИНЦИПИАЛЬНЫЙ ВОПРОС

# Что от нас нужно Путину?

В канун Нового года А.Г.Лукашенко вел очень тяжелые переговоры с президентом России по решению отдельных экономических проблем. Этим переговорам предшествовали заявления некоторых руководителей правительства России, в том числе и премьера Д.Медведева, которые обвинили Беларусь в невыполнении союзного договора 1999 года, который, мол, предусматривает создание единой налоговой, таможенной, акцизной, экономической политики, единой валюты, единого эмиссионного центра. Если исходить из того давнишнего документа, то дальнейшие реальные шаги к «интеграции» – это прокладывание пути к единому парламенту, к единому президенту. Фактически речь идет о вхождении Беларуси в состав России.

Пока не ясно, о чем договорились президенты и на каких условиях. Известно лишь, что для «углубления интеграции» создали рабочие группы, рекомендации которых, как полагают российские эксперты, могут приблизить момент инкорпорации Беларуси в состав России.

Сегодня, очевидно, нет особого смысла анализировать, какую цель преследовали те, кто в 1999 году готовил и подписывал тот злосчастный договор. Давайте лучше поразмыслим вокруг такого вопроса: почему спустя столько лет в России вспомнили об этом документе?

В 2024 году нашим восточным соседям предстоят выборы президента. Путин не может по Конституции баллотироваться в очередной раз, но он сможет стать президентом объединенного государства. Есть и еще одна причина: пять лет подряд падают реальные доходы россиян, конца этому процессу не видно. Рубль за пять лет подешевел более чем в два раза, в прошедшем году – на 20 процентов.

*(Окончание на 2-й стр.)*

STOP!

## Ремонт на МКАД

**8 января для движения транспорта будут закрыты два путепровода на столичной кольцевой.** Мостовое сооружение на внутреннем кольце на 3-м километре (над железной дорогой возле улицы Ф.Скорины) и на внешнем кольце на 25-м километре (над железнодорожными путями около поворота к филиалу БГУ). На время ремонта движение на 3-м км кольцевой будет организовано по внешнему кольцу: по двум полосам со стороны Зеленого Луга в сторону Шабанов и по одной – в обратном направлении. На 25-м км транспорт поедет по внутреннему кольцу: здесь организуют две полосы со стороны Малиновки в сторону Лошицы и одну полосу для движения со стороны Лошицы в сторону Малиновки.

Открыть для движения оба путепровода планируется к концу мая, а после того, как в стране пройдут II Европейские игры, ремонт продолжится.

ВЕЧНАЕ

# Стаўцеся да людзей з любоўю і лагоднасцю…

*(З Паслання да Раства Хрыстовага мітрапаліта Мінскага і Заслаўскага Паўла, Патрыяршага Экзарха ўсяе Беларусі)*

Зноў гучаць ва ўсіх нашых храмах радасныя словы: «Хрыстос нараджаецца, слаўце! Хрыстос з нябёсаў, сустракайце!»

Благадатная, светлая і ціхая радасць напаўняе нашы сэрцы ў гэтую калядную ноч, таму што Сам *«Бог явіў Сябе ў плоці»* (1 Цім. 3, 16), каб знішчыць зло, грэх і смерць! Праз нараджэнне па плоці ад Духу Святога і Прачыстай Дзевы Марыі, праз Яго ўцялесненне чалавек, які прыходзіць у свет, атрымлівае бясцэнны дар – Божую любоў і магчымасць прасвятлення Святлом Ісціны (Ін. 1, 9). Спасіцель звяртаецца да ўсіх, хто любіць Яго, з такімі словамі: *«Я з вамі ва ўсе дні да скančэння веку»* (Мф. 28, 20).

Гасподзь стукае ў наша сэрца ў любым узросце і ў любым месцы, сярод любога народа. Стукае Сваёю благадаццю, звяртаючыся да нас пранікнёнымі словамі, ціха, лагодна і з любоўю: *«Сыне, дай Мне сваё сэрца»* (Прытч. 23, 26)… Госпаду нічога ад нас не патрэбна, Ён шукае толькі нашай любові ў адказ.

На працягу двух тысячагоддзяў людзі, паўтараючы подзвіг дабрадзейных мудрацоў, імкнуцца прынесці Народжанаму ў Віфлееме Богадзіцяці свае запаветныя прынашэнні. А якія дары мы можам прынесці сёння да ясляў Немаўляці Хрыста? У нас свайго нічога няма, усё, што маем, – дар Божы. Але нашымі дарамі Яму могуць стаць плады нашай любові да Бога, плады духу: *«любоў, радасць, мір, доўгацярплівасць, добрасць, міласэрнасць, вера, лагоднасць, устрыманасць»*, бо, калі *«мы жывём духам, то паводле духу і ўчынкі рабіць павінны. Не будзем ганарыцца сабою, адзін аднаго раздражняць, адзін аднаму зайздросціць»* (Гал. 5, 22-26). Збаўца чакае ад нас дзейснай любові да нашых бліжніх – служэння ім: *«Насіце цяжары адзін аднаго, і гэтак выканаеце закон Хрыстоў»* (Гал. 6, 2); пакрывайце ўсё любоўю; *«цярпеннем вашым здабудзьце душы вашы»* (Лк. 21, 19); будзьце *«ўважлівымі адно да аднаго, заахвочваючы да любові і добрых спраў»* (Яўр. 10, 24), стаўцеся да навакольных людзей з любоўю і лагоднасцю, у мірным духу, каб справамі мы маглі сведчыць аб духоўнай сіле і прыгажосці Праваслаўя, каб у святле Хрыстовым ішлі прадвызначаным звыш жыццёвым шляхам, усхваляючы Госпада і Збаўцу нашага і дзякуючы Яму.

Наследуючы ў любові Збаўцу, молячыся за тых, што крыўдзяць нас і гоняць нас (гл. Мф. 5, 44), клапоцячыся пра дабро не толькі праваслаўных, але і ўсяго народа, Бацькаўшчыны нашай і Царквы Хрыстовай, будзем імкнуцца рабіць добрыя справы, якія ператвораць нас і будуць спрыяць змене да лепшага навакольнага свету. Здабыўшы Божую любоў і знаходзячыся ў Святой Праваслаўнай Царкве, захоўваючы яе адзінства, мы робімся адзіным Целам Хрыстовым, Якое не зможа ў гэтым свеце перамагчы ніякае зло і беззаконне, бо *«святло ў цемры свеціць»*, і святло ісціннага жыцця цемра агарнуць не можа (Ін. 1, 5).

Праасвяшчэнныя архіпастыры, шаноўныя айцы, пачэсныя манахі і манахіні, дарагія браты і сёстры, апяваючы ў гэтую святую ноч светавыратавальнае свята Раства Хрыстовага, хачу малітоўна пажадаць кожнаму з вас здароўя душэўнага і цялеснага, міру ў вашых сем'ях.

Навалецце, якое надышло, няхай будзе для ўсіх народаў Бацькаўшчыны нашай годам блаславёнага міру і стваральнай працы! Божае блаславенне няхай будзе з усімі вамі на ўсіх шляхах вашага жыцця!

ХОТИТЕ ЗНАТЬ...

## Сколько и чего можно перевозить через границу

*С 1 января 2019 года введены новые нормы. Вот некоторые из них.*

**БЕСПОШЛИННО РАЗРЕШЕНО ВВОЗИТЬ ТОВАРОВ**

Стоимостью до 500 евро и весом до 25 килограммов.

**ПРИ ПЕРЕСЕЧЕНИИ ГРАНИЦЫ ЧАЩЕ, ЧЕМ РАЗ В ТРИ МЕСЯЦА**

Стоимость товаров не должна превышать 300 евро, а вес – 20 килограммов.

**ЕСЛИ ВЕЗЕТЕ СПИРТНОЕ И ТАБАК…**

Нормы на ввоз спиртного и табачных изделий не изменены – не более 3 литров алкоголя, включая пиво, на человека; не более 200 сигарет, или 50 сигар (сигарилл), или 250 граммов табака, или указанных изделий в ассортименте общим весом не более 250 граммов.

**ВЫ ЛЕТИТЕ САМОЛЕТОМ?**

Нормы также остаются прежними – не более 50 килограммов веса и 10.000 евро деньгами.

**В ВАШ АДРЕС РЕШИЛИ ОТПРАВИТЬ ПОЧТОЙ…**

В месяц из-за границы теперь можно получать международные почтовые отправления весом до 31 килограмма и стоимостью до 200 евро. Однако лимит разовой посылки не должен превышать 22 евро при весе не более 10 килограммов. Предусмотрена таможенная льгота для людей, страдающих некоторыми заболеваниями (например, диабетом) и получающих из-за границы товары медицинского назначения и диетическое питание, – для них месячный лимит составит 500 евро и 31 килограмм.

АПЫТАННЕ

## Расіяне выбіраюць Лукашэнку

Расійская радыёстанцыя «Эхо Москвы» праводзіць на сваім сайце галасаванне на тэму «Хто павінен узначаліць Саюзную дзяржаву Расіі і Беларусі?».

Учора на момант, калі прагаласавала 2127 чалавек, Уладзімір Пуцін атрымаў 6% галасоў (120), Аляксандр Лукашэнка – 70% (1479), 25% аўдыторыі (528) не вызначыліся з адказам.

ДАВЕДКА

## Каго не хапае?

У ліку найбольш запатрабаваных спецыялістаў у Беларусі – урачы і медсёстры, вадзіцелі і прадаўцы.

Усяго ж, паводле звестак Рэспубліканскага банка вакансій Мінпрацы, больш за 77 тысяч вакансій застаюцца адкрытымі ў краіне на пачатак 2019 года.

ГРОМКОЕ ДЕЛО

## Будут судить…

Сегодня в Минском городском суде состоится предварительное заседание по уголовному делу в отношении бывшего замминистра здравоохранения Игоря Лосицкого, а также бывшего главного врача 12-й городской клинической стоматологической поликлиники Минска Владимира Кравченка.

БЛІЦ

*Незвычайныя баталіі разгарнуліся напярэдадні Новага года паміж Мінскам і Масквой. Крэмль намёкамі і адкрыта паставіў перад А.Лукашэнкам ультыматум: у дагаворы 1999 года аб стварэнні Саюзнай дзяржавы, маўляў, ёсць радкі наконт адзінага эмісійнага цэнтра і адзінай валюты – згодны перайсці на расійскі рубель, а таксама на тое, каб валютны друкарскі станок знаходзіўся ў Маскве, тады будзеце мець нейкія прэферэнцыі па газе і нафце. Калі ж пагадзіцца на такія кабальныя ўмовы, то і дурню зразумела, да чаго гэта можа прывесці: да развітання Беларусі з незалежнасцю, суверэнітэтам.*

*У сувязі з такімі драматычнымі абставінамі востра паўстае пытанне:*

# Ці не надышоў час перагляду альбо скасавання дагавора 1999 года паміж Расіяй і Беларуссю аб стварэнні Саюзнай дзяржавы?

**ВІКТАР МАРГЕЛАЎ,**
**сустаршыня Рэспубліканскай канфедэрацыі прадпрымальніцтва:**

– Я думаю, што такі час надышоў даўно.

Мне давялося ўдзельнічаць у рабоце Грамадскай палаты Саюзнай дзяржавы, і я ўважліва перачытаў шэраг дакументаў, у тым ліку азнаёміўся з тэкстам гэтага дагавора. Шчыра кажучы, быў у шоку ад таго, наколькі прымітыўна ён складзены. Уражанне такое, што яго ніхто і не збіраўся выконваць.

Акрамя таго, жыццё не стаіць на месцы і ўносіць свае карэктывы ў розныя аспекты. Тое, што мы раней лічылі дабром, сёння такім не з'яўляецца. Напрыклад, палажэнне аб адзінай валюце. У 1999 годзе, магчыма, 80 працэнтаў насельніцтва за гэта прагаласавала б, а сёння – дакладна не. Зараз мы разумеем каштоўнасць нацыянальнай валюты, разумеем, што можам страціць у выпадку, калі пазбавімся такога рычага.

**АРСЕНІЙ СІВІЦКІ,**
**палітычны аналітык, дырэктар Цэнтра стратэгічных і знешнепалітычных даследаванняў:**

– Відавочна, што ў сённяшніх геапалітычных умовах, калі Расія метадычна павялічвае ціск на Беларусь як эканамічны, так і ваенна-палітычны і інфармацыйны, для Крамля гэты дагавор 1999 года аб Саюзнай дзяржаве з'яўляецца нагодай, каб інкарпарыраваць Беларусь у свой склад, узмацніць свой кантроль і ўплыў над нашай краінай. Відавочна, што беларускі лідар не пойдзе на такія стратэгічныя саступкі, якія падрывалі б суверэнітэт і незалежнасць нашай краіны. Бо тыя гарантыі, якія Масква можа гіпатэтычна даць узамен на саступкі, яна ж можа вельмі хутка і перагледзець. Даверу няма, асабліва пасля 2014 года, калі па сутнасці Расія здзейсніла ваенную агрэсію супраць сяброўскай Украіны, з якой у яе былі падпісаны ўсе магчымыя дамовы аб супрацоўніцтве.

На маю думку, мы зараз знаходзімся ў сітуацыі, калі беларускі бок будзе настойваць на тым, каб дагавор 1999 года перагледзець. Скасаваць складана, бо тады наступствы для Мінска будуць сур'ёзныя, Расія на такі крок будзе рэагаваць вельмі агрэсіўна. Але і перагледзець няпроста, таму, магчыма, застаецца толькі сабаціраваць альбо, як кажуць, забалбатаць, як гэта ўжо атрымлівалася раней. Таму, напэўна, і створана гэтая рабочая група па вывучэнні сітуацыі.

**НАТАЛЛЯ САЎЧУК,**
**настаўніца пачатковых класаў, Брэст:**

– На маю думку, трэба скасаваць гэты дагавор.

Я лічу, што краіны, як і людзі, мусяць вельмі адказна выбіраць сабе сяброў, думаць, у якім накірунку рухацца і развівацца. Для нас, жыхароў Заходняй Беларусі, больш прыязным выглядае сяброўства з еўрапейскімі краінамі. Мы туды ездзім, бачым, як там жывуць людзі, якія ў іх ёсць свабоды, як гэтыя краіны развіваюцца, на якіх каштоўнасцях будуюць сваё існаванне. Мы можам параўноўваць. І калі наш усходні сусед, як мантру, паўтарае “інтэграцыя, інтэграцыя”, то заходнія краіны ставяцца да Беларусі лагодна, дружалюбна, паважліва. Я асабіста не хачу быць у складзе нейкай Саюзнай дзяржавы, лічу, што наша Беларусь можа і павінна быць незалежнай.

**УЛАДЗІМІР ХІЛЬМАНОВІЧ,**
**праваабаронца, Гродна:**

– Дагавор аб Саюзнай дзяржаве супярэчыць беларускай Канстытуцыі, фактычна яго палажэнні перакрэсліваюць суверэнітэт беларускай дзяржавы. Яго трэба было скасаваць на наступны дзень пасля таго, як ён быў падпісаны.

**ВАСІЛЬ КАВАЛЕЦ,**
**пчаляр, г.п.Старобін Мінскай вобласці:**

– Сучасная сітуацыя ў свеце такая, што ніводная краіна не можа існаваць самастойна, без інтэграцыі. Адбываецца пэўная спецыялізацыя краін у сферы эканомікі і гэтак далей. Аднак абавязковай умовай інтэграцыйных працэсаў з'яўляецца захаванне суверэнітэту краіны і роўнасць партнёраў. Што тычыцца Расіі і нашых інтэграцыйных працэсаў, то я іх вітаю. Аднак на прынцыпах роўнасці. А мы што назіраем? Пастаянныя “войны” – малочная, газавая і г.д.

Лічу, што трэба спытацца ў нашага грамадства, як яно ставіцца да дагавора “Аб стварэнні Саюзнай дзяржавы”, выгадны ці не гэты дагавор Беларусі, ці спрыяе яе развіццю, ці, можа, сапраўды нейкія аспекты, пункты лепей змяніць, перагледзець…

**ВІКТАР ЛАМЕКА,**
**прадпрымальнік, г.Зэльва Гродзенскай вобласці:**

– Саюзны дагавор для беларускага народа не меў выгады ні тады, калі яго падпісвалі, ні цяпер. Ён закансерваваў нас у мінулым. Расійская Федэрацыя працягвае навязваць Беларусі і іншым сатэлітам тую мадэль развіцця, якая ўжо вычарпала сябе ў савецкія часы. Гэтая мадэль не пабудавана на агульначалавечых каштоўнасцях, як гэта зроблена на Захадзе і выпрабавана часам. У гэтую мадэль не закладзены рост прыватнай ініцыятывы, яна не прадугледжвае справядлівай судовай сістэмы, не дае магчымасці чалавеку самарэалізавацца. Ні ў Расіі, ні ў Беларусі ўлады не ставяць такіх задач. Тое, што Лукашэнка пачаў гаварыць аб тым, што мы не дапусцім страты суверэнітэту, выглядае, на мой погляд, непераканаўча. Бо, калі ён падпісваў такі дагавор, усім было зразумела, што мы ў выніку гэтага можам згубіць суверэнітэт.

**АЛЕСЬ ДЗЕРГАЧОЎ,**
**пенсіянер, г.Смаргонь:**

– Фактычна Саюзная дзяржава не існуе, бо што тады азначаюць падатковыя манеўры Расіі, якія напрост супярэчаць саюзнай дамове? Усё робіцца ў аднабаковым парадку, а голас Беларусі ў гэтай сітуацыі ніхто нават і не ўлічвае. Навошта пустыя размовы пра адзіны суд? Думаю, што не дойдзе справа і да агульнай валюты… На маю думку, надышоў час не проста перагледзець, а менавіта скасаваць гэты дакумент.

**ЛЮДМІЛА БЯЛЬКЕВІЧ,**
**хатняя гаспадыня, г.Салігорск:**

– Паглядзіце, у Расіі ўсё менш паразумення з краінамі Еўропы, яна паўсюль бачыць ворагаў. Навошта нам тая сумесная дзяржава з такой Расіяй? Акрамя таго, Расія вялікая ў параўнанні з Беларуссю, у яе багатыя нетры, і наўрад ці больш моцная краіна ў складзе Саюзнай дзяржавы адмовіцца ад ціску на больш слабую. На маю думку, трэба перагледзець дагавор “Аб стварэнні Саюзнай дзяржавы”.

**НІНА ЯРМАЛІНСКАЯ,**
**выхавальніца дзіцячага садка, г.Салігорск:**

– Трэба абавязкова перагледзець той дагавор аб стварэнні Саюзнай дзяржавы. А лепей нават і ўвогуле скасаваць. Ён не спрыяе іміджу нашай краіны, пагражае яе суверэнітэту. Яшчэ гэтая інтэграцыя небяспечна тым, што нашым беларускім хлопцам разам з расійскімі давядзецца ваяваць у нейкіх гарачых кропках – у той жа Сірыі ці яшчэ дзе. А навошта нам гэта?

**СЯРГЕЙ ЧАРКАСАЎ,**
**кіраўнік Незалежнага прафсаюза гарнякоў Беларускага незалежнага прафсаюза:**

– Беларусь – еўрапейская краіна, і наша будучыня звязана менавіта з Еўропай. Дагавор “Аб стварэнні Саюзнай дзяржавы” трэба перагледзець. У тым выглядзе, у якім ён ёсць зараз, – гэта фактычна зліццё з Расіяй. Я лічу, што такога не павінна быць!

**Апытвалі**
**Міхал КАРНЕВІЧ,**
**Ларыса НАСАНОВІЧ,**
**Марыя ЭЙСМАНТ.**

Народная Воля http://www.nv-online.info
4 СТУДЗЕНЯ 2019 г.

ЧУЛІ?

## Цэны далі задні ход

*Учора знізіліся цэны на аўтазаправачных станцыях «Беларуснафты».*

Як паведамляе афіцыйны сайт кампаніі, дызельнае паліва патаннела на 1 капейку, бензін – на 2 капейкі.

Зараз на запраўках «Беларуснафты» кошт 1 літра бензіну АІ-95 складае 1,52 рубля, бензіну АІ-92 – 1,41 рубля, дызельнае паліва каштуе 1,53 рубля за літр.

У канцэрне «Белнафтахім» адзначаюць, што астатнія сеткі АЗС таксама маюць права знізіць цэны на паліва.

СІТУАЦЫЯ

# Мікалай Аўтуховіч – у падполлі

Нейкі час пра Мікалая Аўтуховіча нічога не было чуваць, а днямі ён нагадаў пра сябе ў сацыяльных сетках.

*«Сітуацыя склалася так, што з красавіка я перастаў карыстацца паслугамі сувязі нашых беларускіх апаратараў, – паведаміў Мікалай. – У мяне пасля вызвалення з турмы былі свае планы на жыццё. І ў гэтыя планы не ўваходзіла зноў патрапіць у турму. А званочкаў было ўжо дастаткова. У нашай краіне калі ёсць чалавек, заўсёды знойдуць, за што яго пасадзіць. Таму я пайшоў у глыбокае падполле, каб закончыць усе мерапрыемствы для ажыццяўлення сваіх планаў.*

*...У апошні час я не раз быў сведкам таго, што мяне хацелі прыцягнуць да нейкіх незразумелых крымінальных спраў. Фактаў і доказаў дастаткова, калі-небудзь напішу пра гэта ў сваёй кнізе. Не буду зараз скардзіцца на ўсё, нагадаю толькі пра правакацыю, якая прымусіла мяне часова змяніць лад жыцця».*

Паводле слоў Міколы Аўтуховіча, інцыдэнт здарыўся з ім на расійска-латвійскай мяжы ў сакавіку мінулага года. Разам з сябрамі ён ехаў у Юрмалу на машыне праз расійскі памежны пераход «Бурачкі». Па дарозе ў Латвію расійскія памежнікі надзвычай пільна правяралі дакументы пасажыраў, а па вяртанні з Прыбалтыкі машыну затрымалі.

*«Калі я вяртаўся з Генадзем Фядынічам (лідарам прафсаюза РЭП. – **Аўт.**) з-за мяжы, на памежным пераходзе «Бурачкі» Пскоўскай вобласці ў нашай машыне каля 12 гадзін шукалі наркотыкі, – паведамляе Мікалай Аўтуховіч. – Наркотыкі не знайшлі, таму супрацоўнікі ФСБ загадалі начальніку змены забраць у нас усе грошы, банкаўскія карткі і ноўтбукі. Начальнік змены шчыра прызнаўся, што, калі ён гэтага не зробіць, то атрымае спагнанне, а нас не выпусцяць за мяжу. У выніку ў нас канфіскавалі ўсе грошы. «Пад замес» патрапіў і чалавек, які пагадзіўся адвезці ў Юрмалу і назад. У гаспадара машыны забралі каля 10 тысяч долараў. Наколькі вядома, усе нашы грошы і ноўтбукі пазней забралі прадстаўнікі Следчага камітэта Беларусі, які даў расіянам ілжывую інфармацыю, што ўсе мы быццам бы з'яўляемся фігурантамі крымінальнай справы. Хаця на той момант была ўзбуджана крымінальная справа толькі ў дачыненні да Фядыніча. Дарэчы, грошы гаспадару машыны да гэтага часу так і не вярнулі...»*

*– У сакавіку гэтага года мне трэба было па рабочых справах тэрмінова патрапіць у Латвію, – успамінае тую гісторыю цяпер ужо экс-старшыня прафсаюза РЭП* **Генадзь Фядыніч**, *які напрыканцы мінулага года быў асуджаны* на 4 гады дамашняй «хіміі». – На той момант я быў невыязны, але сустрэча была неадкладная. У гэты ж час у Латвію ехаў Мікалай Аўтуховіч, ён і прапанаваў далучыцца да яго кампаніі. Адбыўсяператрус на латвійска-расійскай мяжы, расійскія памежнікі актыўна шукалі наркотыкі. Але ў выніку забралі грошы, ноўтбукі і электронныя носьбіты.

**– Падчас судовага працэсу па вашай справе гэтыя грошы і рэчы фігуравалі?**

– Жанчына, у якой забралі грошы, была выклікана ў суд у якасці сведкі. Але грошы ніякім чынам у крымінальнай справе прафсаюзаў не фігурыруюць. І, відаць, зараз тыя 10 тысяч долараў па-ранейшаму знаходзяцца ў Следчым камітэце. Жанчына, дарэчы, звярталася з гэтай нагоды ў пракуратуру, каб ёй вярнулі фінансы, але, наколькі мне вядома, ліст накіравалі следчым. І я не ведаю, калі ёй вернуць грошы. Напрыклад, па нашай справе расследаванне ўжо даўно закончылася, прысуд вынесены, а камп'ютарную тэхніку, якую забралі падчас затрымання і вобыску, да гэтага часу ніхто не вярнуў.

Тым часам Мікалай Аўтуховіч баіцца, што ў дачыненні да яго могуць быць арганізаваны новыя правакацыі, а таму вырашыў, што называецца, пакінуць публічную прастору.

*«Хутка я распаваду, чым займаўся ўвесь гэты час і якія мэты пераследую ў будучым», – кажа ён.*

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

ПРИНЦИПИАЛЬНЫЙ ВОПРОС

# Что от нас нужно Путину?

*(Окончание. Начало на 1-й стр.)*

В России усугубляется демографическая катастрофа, естественная убыль населения составила в 2018 году примерно 200 тысяч человек, в 2017-м – 134 тысячи. Это убыль в основном за счет славянского населения. Происходит исламизация страны. Падает рейтинг несменяемого В.Путина, что грозит ему потерей власти, хотя, как показывает практика, аннексия Крыма взметнула его популярность на небывалую высоту. «Крымнаш» на электорат подействовал как бальзам на рану. Любой пьяница гордится «Крымнашим». Даже, казалось бы, такая «мелочь», как обстрел и захват украинских военных судов в нейтральных водах вызвал всплеск гордости «за себя, таких могучих» и рост, хотя и небольшой, рейтинга президента России.

И ни оккупация, ни война в Донбассе и Сирии, не заставляют задуматься обывателей в соседней, пока еще «братской» стране о том, что происходит. Им все объясняет телевизор, а также такие «мастера слова», как Соловьев, Киселев, Скобеева и другие. В людях прокремлевские пропагандисты мобилизуют наихудшие качества, в том числе и ненависть к соседям, странам Евросоюза, США. Каждый день по всем центральным телевизионным каналам России льются потоки лжи на Украину, культивируется ненависть к нашему соседу. Делает это практически одна и та же группа мастеров демагогии. Такая целенаправленная атака целесообразна, на мой взгляд, только во время подготовки широкомасштабной войны с Украиной.

Если нет успехов в экономике, то нужна яркая победа, чтобы удержать власть. И, как им кажется, такой победой может стать присоединение Беларуси к России. И вот в Думе устами Жириновского предлагается провести в Беларуси референдум, как в Крыму. А считать они умеют, как и наша Лидия Ермошина. Если предположить, что референдум состоится, задумаются ли граждане Беларуси о том, что своих сыновей и внуков после вхождения в состав России нужно будет отправлять на войну в Донбасс, Сирию, на другие войны, которые организует новый русский царь, чтобы умирать за него и новое отечество. Как мне кажется, стоит серьезно подумать многочисленным сторонникам «русского мира», которых особенно много у нас во власти, что будущие войны не обойдут стороной и их семьи.

Российская пресса начала писать об инкорпорации Беларуси как о чем-то неизбежном. По мнению известного российского публициста Юлии Латыниной, сейчас Беларусь является лакомым куском для Кремля и позволяет решить проблему 2024 года: «*...и весь в белом на белом коне Путин въезжает в Кремль первым главой объединенного государства*». Ей вторит главный редактор радиостанции «Это Москвы» Алексей Венедиктов: «*В течение нескольких лет Беларусь и Россия могут создать единое государство*». Бывший советник президента России Андрей Илларионов утверждает, что Кремль начал поглощение Беларуси.

Все это очень тревожные сигналы. Мы, белорусы, очень уязвимы и виноваты в этом сами.

В 2017 году удельный вес России во внешнеторговом обороте составил 51,7 процента всего товарооборота. По сравнению с 2016 годом он увеличился на 23,5 процента – до 32 миллиардов долларов США. Импорт превысил экспорт на 6,8 миллиарда долларов США. Беларусь таким образом финансирует Россию.

Российский бизнес активно представлен в разных секторах экономики Беларуси, газотранспортная система принадлежит Газпрому. Все это уже представляет опасность для нашей страны.

Сегодня у России еще есть время, и она использует легальную возможность для инкорпорации Беларуси. **Вот почему сейчас очень опасно уступать Москве. Белорусский народ пережил и более сложные времена, переживет и рыночные цены на газ и нефть.**

Но надо иметь в виду, что дальнейшие шаги Кремля можно предсказать на примере Украины: запрет на поставку наших товаров, на транзит их в другие страны, на поставку нефти, могут и газовую трубу перекрыть. Ну а если это не поможет, но все равно очень хочется, то могут организовать какую-нибудь «народную республику», тем более что границы у нас открыты, пограничный столб выкопали в свое время Черномырдин с Лукашенко – завози своих переодетых ГРУшников автобусами. Не исключено, что найдутся и свои сумасшедшие, которые просто захотят поживиться.

Особенно опасно время выборов президента. Как показал опыт Украины – Крым был аннексирован во время смены власти, – заваруху в Донбассе устроили во время президентских выборов Украины; открытое вторжение российских вооруженных сил под украинский город Иловайск произошло во время выборов в украинский парламент.

Будет ли кому защищать нашу страну? Или мы повторим путь Украины, где милиция на Донбассе в надежде на большую российскую зарплату перешла на сторону России, а армия в Крыму не смогла стрелять в «братьев» (как им говорили). Наша армия тоже воспитывается в традициях братской дружбы, а не патриотизма и любви к своей стране.

Ясно, что белорусский народ должен быть как никогда един перед смертельной угрозой, стоящей перед страной. Нам нужно помнить, что у регионов, куда Россия привела свой «русский мир», будущего нет. Народ бежит оттуда: в Абхазии в 1989 году проживало 525 тысяч человек, а на 1 января 2016 года – 240 тысяч; в Приднестровье в 1990-м проживало 730 тысяч человек, а в 2018-м – только 475 тысяч; в Южной Осетии в 1989-м было 98,5 тысячи человек, в 2015-м – лишь 53 тысячи. Если так пойдет и дальше, останутся там только горы.

Из оккупированных территорий Донецкой и Луганской областей только в Украину переехало около 1,7 миллиона человек, сотни тысяч бежали в Россию. Почти 40 процентов населения вынуждены покинуть свои родные очаги и бежать, оставляя нажитое имущество. Только Крым может сохранить численность населения, если Россия переселит туда своих граждан из северных районов.

Нам-то зачем бежать со своей земли? И что нужно сделать, чтобы к нам не пришла беда? А если, не дай бог, придет, то как дать агрессорам отпор, как отстоять свой край? Давайте, соотечественники, вместе подумаем над ответами на эти и многие другие вопросы.

**Василий ШЛЫНДИКОВ, председатель Комиссии по экономической политике и реформам Верховного Совета Республики Беларусь 13-го созыва.**

З АФІЦЫЙНЫХ КРЫНІЦ

# Якія заробкі і пенсіі паабяцалі беларусам у 2019 годзе

*Не заўсёды заяўленыя ўрадам планы спраўджваюцца, тым не менш мы вырашылі пацікавіцца, як могуць змяніцца пенсіі і заробкі беларусаў у 2019 годзе.*

Па-першае, урадам запланаваны **прырост рэальных даходаў насельніцтва на ўзроўні 3,4%**. Для параўнання: у 2018 годзе чакалася, што рэальныя наяўныя даходы насельніцтва вырастуць на 3,2%, аднак за студзень–кастрычнік (іншых дадзеных пакуль няма) гэты паказчык вырас аж на 8,1% да аналагічнага перыяду 2017 года.

Што тычыцца заробкаў, то ў 2019 годзе па выніках студзеня–снежня ўрад **абяцае сярэднюю зарплату па краіне ў 1025 рублёў**, пры гэтым у снежні 2019 года яна павінна скласці 1100 рублёў.

**Сярэдні заробак бюджэтнікаў** запланавана ў 2019 годзе давесці **да 810 рублёў**, і гэта мусіць быць не ніжэй за 80% ад сярэдняй зарплаты па краіне. Дарэчы, у лістападзе 2018 года сярэдняя зарплата бюджэтнікаў складала 768,6 рубля, дадзеных па снежаньскім сярэднім заробку пакуль няма, хоць звычайна ён заўсёды вышэйшы за кошт прэмій і розных даплат з нагоды заканчэння года.

Пенсіянерам ўлады таксама абяцаюць у 2019 годзе рост выплат. Ва ўсялякім разе міністр працы і сацыяльнай абароны Ірына Касцевіч заявіла, што павышэнне працоўных пенсій запланавана не радзей, чым 1 раз у год, і што тычыцца 2019-га, то, паводле яе слоў, «пенсіі па ўзросце вырастуць на 14%».

Дарэчы, у 2018 годзе пенсіі пераразлічвалі тройчы – у маі, жніўні, лістападзе, і ў снежні сярэдняя працоўная пенсія па ўзросце склала 393,68 рубля. Аднак давесці сярэдні памер пенсій да 40% ад сярэдняй зарплаты па краіне ў мінулым годзе не атрымалася. Улады абяцаюць зрабіць гэта ў 2019-м.

Пажывём – пабачым.

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

РАЗВІТАННЕ

# ПЕРАМОГА ЮРЫЯ ТУРОНКА

Улетку 1993 года ў Оперным тэатры праходзіў шматлюдны і прадстаўнічы (каля 1000 дэлегатаў) Першы з'езд беларусаў свету. Зайшоўшы ў прасторнае фае, я ўбачыў даўжэзную чаргу да кніжнага шапіка. Пацікавіўся таварам і быў уражаны – людзі стаялі ў чарзе па навуковую манаграфію і бралі яе па некалькі асобнікаў! Так я ўпершыню сустрэўся з кнігай гісторыка Юрыя Туронка «Беларусь пад нямецкай акупацыяй», чый 5000-ы наклад амаль увесь і расхапалі на тым з'ездзе. Рэдкі выпадак – гістарычнае даследаванне стала бестселерам!

Туронкава кніга зрабіла сапраўдную рэвалюцыю ў беларускай гістарыяграфіі пра Другую сусветную вайну. Пра яе ў нас былі напісаны цэлыя гімалаі літаратуры, але пераважна гэта быў погляд з чужой званіцы, часцей прапагандысцкі, чым навуковы. Дастаткова згадаць такога «даследчыка», як Лаўрэнцій Цанава, які лічыўся аўтарам таўшчэзнага даследавання пра беларускі партызанскі рух. А тут – беларускі гісторык-аматар (па адукацыі Туронак – хімік) зірнуў на вайну, як сам прызнаўся, «*не праз прызму зацікаўленняў Масквы, Берліна і Варшавы, але перш за ўсё з улікам беларускага нацыянальнага інтарэсу*». Прычым зірнуў не па-дылетанцку, а пасядзеўшы колькі гадоў у польскіх і нямецкіх архівах, якія былі недаступныя савецкім даследчыкам. І ў гэтым была галоўная вартасць кнігі, якая пераважыла на шалях праўды тыя ўзведзеныя за доўгія гады гімалаі.

Акрылены поспехам кнігі, аўтар справядліва чакаў не толькі захопленых чытацкіх водгукаў (іх было шмат), але і ўзважанага слова калег-гісторыкаў і мужоў дзяржаўных. І дачакаўся. Тагачасны прэм'ер-міністр Беларусі Вячаслаў Кебіч на сустрэчы з ветэранамі паабяцаў прыцягнуць Юрыя Туронка да крымінальнай адказнасці і дадаў: «*По поводу книги «Беларусь пад нямецкай акупацыяй» я уже вел разговор с министром информации, кому подчинено издательство. Как можно такое издавать?*»



Прысутная на сустрэчы старэнькая Марыя Осіпава (удзельніца замаху на Вільгельма Кубэ) падтакнула прэм'еру: «*Есть ли мозги у того, кто написал книгу?*» Магчыма, калі б Юры Туронак з'яўляўся грамадзянінам Беларусі, яго і сапраўды паспрабавалі б пасадзіць на лаву падсудных. Але ён жыў у Варшаве і для беларускай Феміды быў недасягальны.

Гісторык Ю.Туронак аспрэчыў шматлікія міфы часоў акупацыі. Напрыклад, пра забойства савецкімі падпольшчыкамі бургамістра Мінска Вацлава Іваноўскага. Аказваецца, у яго ліквідацыі быў зацікаўлены найперш будучы кіраўнік БЦР Радаслаў Астроўскі, які расчышчаў поле дзейнасці для сябе і сваёй каманды. Ды і знішчэнне таго самага Кубэ, аказваецца, адбывалася з санкцыі нямецкіх спецслужбаў, з якімі канфліктаваў гаўляйтар...

У школьнай «Гісторыі БССР» мы ўсе чыталі пра партызанскія «зялёныя школы», дзе вучыліся без падручнікаў, а пісалі ледзь не на бяросце. Ніхто ж не спрачаецца – «зялёныя школы» дзейнічалі, але, гаворачы пра іх, не варта аддаваць забыццю іншыя школы і тое беларускае жыццё, якое не спынілася і пад немцамі. У Туронкавай кнізе мы знаходзім звесткі і пра нацыянальны тэатр, і пра шматлікія школы, і пра беларускія кнігавыдавецтвы. Скажам, паводле падлікаў гісторыка, у акупаванай немцамі Беларусі пабачылі свет 52 кнігі. Нібыта і няшмат (у суседняй Латвіі за той жа перыяд – 1500), але гэта былі вартыя выданні – «Сягоння» Наталлі Арсенневай, «Мае песні» Алеся Салаўя, «Беларусь учора і сёння» Язэпа Найдзюка...

Тэму вайны Юры Туронак не абмінуў і ў сваёй мемуарнай кнізе «За кардонам Бацькаўшчыны». Народжаны ў мястэчку Дукшты на гістарычнай Браслаўшчыне, ён запомніў яе ўчэпістай падлеткавай памяццю і падаў часам дакладна-падрабязна (абапіраючыся на дзённік), часам – жывапісна-кінематаграфічна. Вось толькі адна з яскравых сцэнак. 29 чэрвеня 1944 года, Дукшты. Беларус Пецька Кузьміцкі, які служыць у латышскім (!) вайсковым аддзеле, у форме люфтвафэ (!) ідзе з вінтоўкай на варту і спявае на ўсю вуліцу савецкую (!) песню «С нами Сталин родной, / он железной рукой...». Наўрад ці дзесяцігадовы падлетак разумеў усю трагікамічнасць гэтай сітуацыі, але якая нязвыклая ў гэтым эпізодзе даецца праўда пра вайну, якая доўгі час малявалася ў нас чорна-белымі колерамі.

Выйшаўшы на пенсію, Юры Туронак звычайна летаваў у вёсцы Трыпуці на Беласточчыне. Сваім гасцям з гонарам паказваў зямельны надзел, які ўласнаручна ачысціў ад лесу. То «Беларусь пад нямецкай акупацыяй» пісаў, то пні карчаваў. І там, і там ішоў па цаліку, робячы цяжкую працу за цэлую брыгаду. І – на абодвух «надзелах» атрымаў перамогу, пакінуўшы па сабе даследаваную, акультураную прастору.

На 90-м годзе сэрца не вытрымала... **2 студзеня Юры Туронак памёр у шпіталі ў Канстанцінаве пад Варшавай.** Паспеўшы перадаць у Беларусь свой каштоўны архіў. Спадзяюся, на яго матэрыялах хтосьці з айчынных даследчыкаў напіша ўдзячную кнігу пра самога Туронка – ён таго, безумоўна, варты.

**Міхась СКОБЛА.**

С МОЕЙ КОЛОКОЛЬНИ

Елена МОЛОЧКО



# Сталин и Дед Мороз: а не поменяться ли им шапками?

Пошутить в праздник – дело святое. В такие дни ханжить с напускной добродетельностью – просто людей смешить. И все-таки даже для новогоднего карнавала есть табу, даже любимый всеми зимний праздник некоторые места обходит стороной. У монумента на площади Победы, например, никому в голову не придет подрывать петарды и кружиться в хороводе у Вечного огня. Тем более в Брестской крепости... А если залетит такая шальная мысль в голову вместе с пузырьками шампанского, то наряд милиции вас быстро остановит. Уже бывали случаи...

Но комплекс «Линия Сталина» – это не настоящий памятник, это просто фейк, выдуманная святыня. А если еще точнее – аттракцион для развлечения. Что, собственно, комплекс и подтверждает своими праздничными мероприятиями. В эти дни вплоть до православного Рождества его легко превратили... в резиденцию Деда Мороза. И зазывают народ с карнавальной безудержностью: «Всех посетителей ждут подарки, сказочная атмосфера и новогоднее волшебство!» Более того, Деду Морозу пожалована здесь для пущей важности генеральская шапка. Свой исторический наряд на «Линии Сталина» он меняет легко, потому что здесь место такое – ничего исторического, все понарошку.

Но если серьезно, то большую нелепость трудно придумать. Классический разрыв шаблона. Как соединить в нормальном сознании «сказочную атмосферу» и «символ героической борьбы советского народа против немецко-фашистских захватчиков», каким хочет казаться этот комплекс? Или это все-таки не символ борьбы, а так, дешевые театральные декорации?

Я склоняюсь к последнему – декорации без глубокого смысла. Потому администрация и путается с идеей комплекса, не может сохранить ее на должной высоте и так легко жонглирует смыслами. Но в нашей стране достаточно настоящих святынь, где сердце замирает от воспоминаний. А вы называйтесь просто «военный диснейленд», раз торгуете развлечениями по всем правилам бизнеса. Оставьте народную боль и героику в покое. Кажется, даже местный ресторанчик здесь сдается для дружных корпоративов. Вот и славно. Сталин содрогается в гробу, глядя, как память о народной войне обрастает здесь пошлостью. Кстати, он стоит на «Линии» памятником, истуканом. Предлагаю надеть на него в эти дни шапку Деда Мороза – ну, раз последнему напялили генеральскую. Самое ей там место и время. Клоунада продолжается!

ПРОТИВОСТОЯНИЕ

## Украинский шоколад запретили в России

Премьер-министр России Дмитрий Медведев подписал постановление об эмбарго на промышленную и сельскохозяйственную продукцию, сырье и продовольствие. В частности, теперь нельзя будет продавать в РФ украинский шоколад, соки, пиво, вино и спиртные напитки, мебель, сладости, мучные изделия, некоторые виды растительного масла, рыбные и овощные консервы, фруктовые джемы и желе.

Решение стало ответом на действия Украины – санкционная война Киева и Москвы продолжается, сообщает **газета.ру.**

*«Правительство России может принять решение об отмене вводимых специальных экономических мер, если Украина отменит ограничительные меры, введенные ранее в отношении конкретных российских товаров»*, – отметили в пресс-службе.

Таким образом, теперь под запрет в России попадет кондитерская продукция украинской корпорации «Рошен», которая принадлежит президенту страны Петру Порошенко.

В прошлом году Россия ввела ограничения против 322 физических и 68 юридических лиц. Среди них – министр внутренних дел Украины Арсен Аваков, глава СБУ Василий Грицак, министр обороны Степан Полторак, радикалы Дмитрий Ярош и Олег Ляшко, бывшие премьеры – Юлия Тимошенко и Арсений Яценюк. Ограничения коснулись и многих других политиков, среди которых более 200 депутатов Рады.

С МИРУ ПО НИТКЕ

## 500 евро больше не выпускают

*С 27 января 17 из 19 центробанков еврозоны прекратят выпуск банкнот номиналом 500 евро.*

Об этом сообщает **France24** со ссылкой на сообщение Европейского центрального банка.

Австрия и Германия будут продолжать выпуск банкнот по 500 евро до 26 апреля для обеспечения плавного перехода и по логистическим причинам.

500-евровые купюры, выпущенные ранее, остаются в обращении и являются легальным платежным средством.

500-евровая банкнота является одной из самых ценных в мире банкнот наряду с банкнотой в тысячу швейцарских франков (равной 888 евро).

ЕЦБ говорит, что именно эти банкноты чаще всего используются в преступной деятельности. Учитывая их высокую стоимость, именно такие банкноты часто используются в отмывании денег и финансировании терроризма.

## Китай грозит Тайваню насильственным присоединением

*Председатель КНР не исключил применения военной силы в отношении Тайваня с целью присоединения острова на своих условиях.*

«Воссоединение Китая неизбежно», – заявил Си Цзиньпин.

Председатель КНР Си Цзиньпин заявил, что готов применить военную силу для присоединения Тайваня. «Китай должен воссоединиться, и это неизбежно произойдет», – заявил он на днях, выступая в Доме народных собраний – здании китайского парламента в Пекине. По словам главы Китая, независимость Тайваня «противоречит ходу истории и приведет в тупик», а присоединение острова «пойдет на благо тайваньским землякам».

Си Цзиньпин заверил, что Пекин стремится к мирному воссоединению, однако не допустит сепаратизма.

«Мы не давали обещания воздерживаться от применения силы и оставляем за собой возможность использовать все необходимые средства», – указал председатель в своей речи.

Президент Тайваня Цай Инвэнь в новогоднем обращении подчеркнула «неготовность отказываться от суверенитета и идти на уступки властям КНР».

Провинция Тайвань заявила об отделении от Китая во время гражданской войны в 1949 году, но не объявляла государственной независимости. С тех пор Пекин считает ее «мятежной провинцией» и призывает к воссоединению на своих условиях, параллельно проводя политику дипломатической изоляции Тайбэя. В то же время США поставляют Тайваню современное оружие и оставляют за собой право защищать Тайбэй без конкретных обязательств.

## Работу правительства одобряет лишь треть французов

*Как сообщает Figaro, об этом свидетельствует опрос, проведенный Harris.*

В общем 47% французов утверждают, что имеют оптимистичные ожидания на 2019 год, тогда как год назад оптимистами было 59%. Процент «пессимистов» за год вырос с 38% до 51%.

71% французов считают, что правительство в первую очередь должно способствовать росту покупательной способности граждан. Для 99% даже приемлемо, если для этого придется ослабить контроль за государственным долгом и дефицитом.

Противоположного мнения придерживаются 27% респондентов – они ожидают от правительства жесткого контроля за долгом и дефицитом.

Стоит признать, что в вопросе покупательной способности оптимистичные ожидания на 2019 год имеют лишь 23% граждан.

Также французы ожидают от правительства усилий по борьбе с терроризмом (71%) и безработицей (70%).

ИЗ ЖИЗНИ ПРЕЗИДЕНТОВ

## Бердымухамедов перевел сына из МИД

*Сын президента Туркменистана Гурбангулы Бердымухамедова Сердар в начале января перестал быть заместителем главы Министерства иностранных дел (МИД) и стал заместителем хякима Ахалского велаята. О соответствующем приказе сообщает сайт TDH.*



Ахалский велаят – это бывшая Ашхабадская область, ее центром сначала был Ашхабад, затем столицу вывели в отдельную административную единицу, а центром велаята стал Аннау (Бугдайлы).

По замыслу Гурбангулы Бердымухамедова, обнародованному в ноябре, в этой области будет построен новый административный центр, который «должен стать не менее впечатляющим по своей архитектуре», чем Ашхабад, и условия жизни в котором должны «не уступать стандартам, принятым в столице». Государственное телевидение показало, что, пока раздавались эти поручения, сын президента Сердар тщательно фиксировал их в своем блокноте.

Сердар Бердымухамедов родился в 1981 году. Имя «Сердар» переводится с туркменского как «Вождь», сообщает агентство Фергана. Помимо единственного сына у президента имеются три дочери и четверо внуков. По мнению некоторых аналитиков, глава государства считает Сердара своим преемником, они вместе участвуют в автомобильных гонках, катаясь в тандеме как пилот и штурман.

Бердымухамедов-младший учился в Москве и Женеве. В 2016 году он был впервые избран депутатом Меджлиса (парламента Туркменистана), во второй раз получил депутатский мандат в 2018 году. В обоих случаях, как отмечалось, его избрали с нарушением Конституции – Бердымухамедов-младший перед выборами слишком мало непрерывно жил на территории страны и не соответствовал конституционным требованиям о цензе оседлости. Заместителем министра иностранных дел Сердара назначили весной 2018 года.

АСОБА

# Вальдэмар КАЛІНІН: «У цыганоў няма дзяржавы і войска, яны спадзяюцца толькі на Бога»

*Даўно няма на свеце цыганскай «Мядзведжай акадэміі» ў Смаргоні і Міры, чые выпускнікі весялілі народ на святы. Забыліся імёны цыганскіх каралёў, якія спрабавалі кіраваць сваім неўтаймоўным народам. Прамінулі часы славутых кірмашоў у Зэльве, куды цыганы прыганялі цэлыя табуны пародзістых коней. Краіна Цыганія існуе толькі ў літаратурных творах…*

*Але вясёлы вандроўны народ жыве, займаецца звыклым для сябе рамяством, спявае свае цыганскія песні, вышэй за ўсё ставячы ўласную свабоду. Пра жыццё беларускіх рома мы сёння пагаворым з колішнім віцебскім настаўнікам, перакладчыкам Бібліі на цыганскую мову* ***Вальдэмарам Калініным****, які вось ужо 25 гадоў жыве ў Лондане.*



**– Спадар Вальдэмар, у Віцебску дагэтуль памятаюць выкладчыка англійскай мовы Уладзіміра Калініна. Пакінуўшы школу беларускую, ці знайшлі вы сябе ў школе брытанскай?**

– Так, знайшоў. Праўда, не адразу, а з цягам часу. Цяжкавата было спасцігнуць англійскі менталітэт вучняў. У беларускай школе на ўроку можна прыкрыкнуць, стукнуць кулаком па стале… У брытанскай гэта будзе выглядаць дзікавата. У Лондане я скончыў Кінгстанскі ўніверсітэт па спецыяльнасці «сацыяльны лагапед». Працаваў з дзецьмі, якім было цяжка ўпісацца ў англійскае грамадства з прычыны няведання мовы, рэлігіі і г.д.

**– А як вы ўвогуле апынуліся ў Лондане?**

– Выйграў конкурс, гэта было ў 1993 годзе. Пасля распаду Савецкага Саюза, калі Англія пачала прымаць выхадцаў з краін сацыялістычнага блоку, усе кінуліся туды. І чэхі, і палякі, і літоўцы, і венгры (беларусаў было мала). Найперш патрабаваліся настаўнікі, урачы, сацыяльныя работнікі. Падаў дакументы і я. Праз пэўны час пасля адмысловай гутаркі ў англійскай амбасадзе мне паведамілі пра станоўчае рашэнне. І вось ужо чвэрць стагоддзя я ў Лондане.

### «Маю грамадзянства англійскае і «спячае» беларускае»

**– За чвэрць стагоддзя ваша беларуская мова не набыла лонданскага акцэнту. З кім вы там размаўляеце па-беларуску?**

– З усімі землякамі. Беларусы ў Англіі паміж сабой размаўляюць па-свойму. Недзе за тыдзень перад маім вылетам у Беларусь мы акурат адзначалі чарговыя ўгодкі Слуцкага збройнага чыну. І сталася так, што ў гэты дзень мне ў літоўскай краме, дзе я звычайна набываю хлеб, далі на распаўсюджванне расійскія газеты, якія выходзяць у Лондане, – «Англия» і «Пульс». Ну, я прыхапіў па некалькі асобнікаў. І на ўгодках Слуцкага паўстання ніхто з нашага згуртавання іх не ўзяў! Сказалі: Вальдэмар, нас не цікавіць «русский мир», мы такіх газет не чытаем.

**– А якое ў вас грамадзянства?**

– Маю англійскае і «спячае» беларускае. Справа ў тым, што ў Беларусі на пачатку 2000-х выйшла палажэнне, што асобы, якія не адмаўляліся ад беларускага грамадзянства, могуць яго захаваць. Таму калі я прыязджаю на радзіму, то часова раблюся грамадзянінам Беларусі. Вяртаюся ў Лондан – і там я грамадзянін Вялікабрытаніі.

**– У Беларусі цыганоў каля 7000 (паводле апошняга перапісу). А ў Лондане іх шмат?**

– Шмат, асабліва з Румыніі і Балгарыі. А ўвогуле, у краінах Еўрасаюза цыганоў каля 2 мільёнаў. Хоць апошнім часам лічбы падвышаюцца. Скажам, цяпер пішуць, што ў Савецкім Саюзе падчас Другой сусветнай вайны загінула 200.000 цыганоў. Але ж паводле перадваеннага перапісу ў СССР налічвалася ўсяго 68.000 цыганоў (гэта калі не ўлічваць Прыбалтыку, але там іх было няшмат). Дык адкуль тыя 200.000? Я больш давяраю вынікам перапісу.

**– Лонданскія цыганы таксама вядуць бадзяжны лад жыцця, як і іх беларускія суродзічы?**

– Англійскія і беларускія цыганы не бадзяюцца. У Лондане неўладкаваны лад жыцця вядуць хіба тыя цыганы, што прыехалі з Румыніі. Яны спяць у кардонных каробках пад мастамі, як звычайныя бамжы. А ў большасці сваёй тамтэйшыя цыганы атрымалі адукацыю, працуюць у розных установах.

### «Пераклад Бібліі – экзамен для цыганскай мовы»

**– Вы здзейснілі сапраўдны подзвіг – пераклалі на цыганскую мову Біблію. Як успрынялі гэта вашы суродзічы?**

– Праваслаўныя і каталікі, а таксама людзі свецкія – прыхільна. А вось некаторыя пратэстанты чамусьці паставіліся насцярожана, усё вышуквалі ў перакладзе памылкі. Але, як сказаў старшыня Цыганскага культурнага аб'яднання Беларусі Алег Казлоўскі, тым пратэстантам трэба не памылкі ў Бібліі шукаць, а збаўлення… Маім перакладам карыстаюцца цыганы ў Беларусі, Расіі і Прыбалтыцы.

**– А ці існуюць слоўнікі цыганскай мовы?**

– На жаль, не. У 1938 годзе быў выдадзены цыганска-рускі слоўнік прафесара Міхаіла Сергіеўскага, ён быў прарэктарам Маскоўскага ўніверсітэта. Складаць слоўнік яму дапамагаў цыган-асветнік Мікалай Панкоў.

**– У Беларусі ў свой час выйшла ваша паэтычная кніга «Сны цыганоў» – па-цыганску, па-беларуску і па-англійску. А ў Лондане вы не перасталі займацца літаратурнай творчасцю?**

– Не перастаў. Нават вяду семінар для пачаткоўцаў, вучу іх пісаць вершы па-англійску. Даволі часта выступаю як паэт, прычым не толькі ў Лондане, запрашаюць і ў Францыю, і ў Германію. Чытаю і па-цыганску, і ў перакладах на другія мовы. Нядаўна ў Парыжы папрасілі пачытаць па-беларуску. І здзівіліся – якая прыгожая мова! Мы там па бібліятэках ездзілі, аднойчы нават у турме вершы чыталі.

### «Літаратура і кіно пра цыганоў не адпавядаюць жыццёвай праўдзе»

**– Я нядаўна пaглядзеў расійскі мастацкі фільм «Заяц над безданню». Там малады цыган крадзе ўрадавы «ЗІЛ» ў самога Леаніда Брэжнева, калі той прыязджае ў Малдову. Чаму ў грамадстве існуе такі стэрэатып, што цыганы – зладзеі?**

– Падкрэсліванне гэтай рысы я разглядаю як дыскрымінацыю. Няўжо няма зладзеяў сярод беларусаў ці рускіх? На цыганоў заўжды глядзелі праз прызму рамантызму – вольная, неўтаймаваная воля, коні, табар сыходзіць у неба, «цыганы шумною толпой по Бессарабии кочуют». Літаратура і кіно пра цыганоў у многім не адпавядаюць жыццёвай праўдзе.

**– Прынята лічыць, што цыганы паходзяць з Індыі. Але вы ў сваёй кнізе «Загадка балтыйскіх цыганоў» ставіце пад сумнеў гэту версію. Дык адкуль цыганы, дзе іхняя прарадзіма?**

– Значная частка цыганоў адмаўляе сваё паходжанне з Індыі. Цыганы маюць талент да музыкі і танцаў, але іхнія танцы – пераважна не індыйскія. Я ў 2003 годзе супрацоўнічаў з маскоўскім тэатрам «Рамэн». І спытаўся ў акцёраў: дык усё ж далёкія продкі цыганоў з Індыі? А яны: «Мы таксама так думалі, пакуль не пабывалі там на гастролях». Вядомы цыганскі дзеяч Раман Грахольскі мне так і сказаў: «У нас з індусамі абсалютна адрозныя менталітэт і грамадская псіхалогія». Таму канчатковага адказу на пытанне пра паходжанне цыганоў пакуль няма».

### «Кароль усіх мясцінаў, дзе ступаў капыт цыганскага каня»

**– На беларускай зямлі цыганы ўпершыню з'явіліся 500 гадоў таму. А ў Беларусь яны адкуль прыйшлі?**

– З Заходняй Еўропы, праз Германію. Адбылося гэта недзе ў XV стагоддзі. Вядомы беларускі гісторык Зміцер Даўгяла ў часопісе «Наш Край» у 1925 годзе паведамляў, што ўжо ў 1530 годзе на Гродзеншчыне цыганы гандлявалі коньмі. У мове беларускіх цыганоў – гэта адразу кідаецца ў вочы – цэлы нямецкамоўны пласт.

**– Стаўленне да цыганоў у старабеларускай дзяржаве – Вялікім Княстве Літоўскім – на жаль, не было прыхільным. Вось як трактаваў цыганоў Статут 1588 года: «Цыганы – людзі непотребныя і ворожнуючія, шкода через ніх в ошуканні простых людей». Яшчэ так мала пажылі разам, а ўжо – «люді непотребныя». Чаму так?**

– Падобнае я знаходзіў і ў статутах іншых дзяржаў. У канцы XV стагоддзя ў Германіі існавалі вельмі жорсткія антыцыганскія законы, якія і змусілі цыганоў падацца на ўсход. Але ў 1557 годзе і кароль Рэчы Паспалітай Жыгімонт Аўгуст выдаў антыцыганскі закон. У Расійскай імперыі становішча цыганоў было не лепшым – там тройчы прымаліся заканадаўчыя акты аб забароне бадзяжніцтва і прымусовым пасяленні цыганоў на вольных землях. У СССР у 1956-м выйшаў указ Вярхоўнага Савета «Аб працаўладкаванні цыганоў». Так што ўлады ва ўсе часы стараліся загнаць цыганоў у пэўныя рамкі. Ну, а цыганы, як маглі, бараніліся.

**– Пачынальнікам цыганскай тэмы ў беларускай літаратуры быў Уладзімір Караткевіч – аўтар выдатных твораў «Цыганскі кароль» і «Краіна Цыганія». Цыганскага караля Якуба Знамяроўскага (а гэта рэальная асоба) пісьменнік паказаў яскрава, але парадыйна. Вось як абвяшчаецца выхад караля: «Міласцю Бога кароль Якуб Першы, гаспадар егіпцянаў беларускіх і падляшскіх, уладар мацыевіцкі, абедзвюх Украінаў і Егіпта і ўсіх мясцінаў, дзе ступаў капыт цыганскага каня». І такое разгульнае жыццё ідзе ў краіне Цыганіі – уся шляхта беларуская зайздросціць! Ці не перабраў тут меры Караткевіч?**

– Такі вялікі пісьменнік, як Караткевіч, меў права зрамантызаваць цыганскае жыццё так, як палічыў патрэбным. Пра цыганоў пісалі вялікія мастакі слова. Той жа Пушкін у паэме «Цыганы» апаэтызаваў вольнае каханне цыганоў. Насамрэч цыганы маюць вельмі цвёрдыя маральныя прынцыпы ў адносінах паміж жанчынамі і мужчынамі. Як правіла, яны аднаЛюбы, рана жэняцца і выходзяць замуж, вернасць захоўваюць усё жыццё.

**– Дык крыўды на Караткевіча за вобраз Знамяроўскага цыганы не маюць?**

– Не маюць. Але варта ўдакладніць наконт цыганскіх каралёў. У Польшчы ёсць цыганскі кароль – *шэро-ром*. Калі Беларусь была часткай Польшчы, то былі цыганскія каралі і ў нас. А ў Расійскай імперыі кіраўнікоў цыганскіх табароў сталі называць «бургамістрамі», пазней – «баронамі». Яны збіралі з цыганоў падаткі і адбіралі рэкрутаў для войска. З усталяваннем савецкай улады ўсе «бургамістры» і «бароны» самаліквідаваліся.

**– А я па БТ неяк бачыў сюжэт пра цыганскага барона, які жыве ў Смалявічах. Гэта хто – самазванец?**

– Ёсць і самазванцы. Чамусьці журналісты ўсё шукаюць «баронаў» сярод цыганоў.

**– Не магу не згадаць пра варажбу. Што гэта – нейкая звышадчувальная здольнасць цыганак, ці звычайны падман?**

– Так, пэўная частка цыганак валодае незвычайнай здольнасцю зазірнуць у душу чалавека і сказаць, што там адбываецца. Такія цыганкі – добрыя псіхолагі. Але хіба беларускі не варожаць, скажам, на Шчодрыкі? Варажба – рамяство, якое перадаецца з пакалення ў пакаленне.

**– А вы самі верыце ў варажбу?**

– Я ніколі не пращу мне паваражыць. Усё ў руцэ Божай.

### «Каля вогнішчаў цыганы ўслаўляюць Бога спевамі пад гітару»

**– Усе цыганы ведаюць сваю родную мову – не раўня нам, беларусам. Як ім гэта ўдаецца? Цыганскіх школ, наколькі я ведаю, нідзе ў свеце няма.**

– Таму што ў сем'ях цыганы з дзяцінства размаўляюць па-свойму. Але моўная праблема ў нас таксама стаіць востра. Беларускія цыганы яшчэ захоўваюць мову. Украінскія (тыя, што бліжэй да Расіі) – таксама. А цыганы ў Заходняй Украіне мову амаль страцілі. І фінскія забылі – размаўляюць па-фінску. Цыганскія школы ў Беларусі былі – у перыяд з 1931-га да 1938 года. У мяне нават тагачасныя падручнікі ёсць. У Маскве працаваў цыганскі Педагагічны тэхнікум імя Ціміразева, нават прамовы Сталіна выходзілі на цыганскай мове. Але ў 1938 годзе ўсё спынілася, школы пазачынялі. Падчас перабудовы была спроба адрадзіць цыганскае школьніцтва. Асабліва шмат для гэтага рабіў Піліп Яновіч (Ромка Леніно). Разам з ім мы складалі цыганска-рускі навучальны слоўнік. Некаму прыйшлася недаспадобы актыўнасць Яновіча: ён быў жорстка збіты, атрымаў моцны псіхалагічны надлом і ў 1992 годзе скончыў жыццё самагубствам. Я з'ехаў у Вялікабрытанію. І справа заглухла.

**– А якая сітуацыя ў сённяшняй Беларусі? Што маюць тыя 7000 цыганоў, якія жывуць у нашай краіне?**

– Існуюць цыганскія таварыствы ў Мінску, Віцебску, Магілёве і Ашмянах. Але выжываць ім складана. У Беларусі апошнім часам вельмі актыўна дзейнічае Цыганская рэлігійная місія з Фінляндыі, штогод адбываюцца міжнародныя Евангелічныя канферэнцыі цыганоў. На фоне традыцыйных намётаў і вогнішчаў цыганы ўслаўляюць Бога пранікнёнымі спевамі пад гітару. На пачатку 1990-х у Мінску быў адчынены цыганскі рэстаран «Дрома Ромэн» са сталай цыганскай праграмай і кухняй, але праз гадоў восем ён зачыніўся.

### «У цыганоў няма імкнення стварыць сваю дзяржаву»

**– Праз 25 гадоў жыцця ў Лондане як вас там успрымаюць – як цыгана ці як беларуса?**

– Найчасцей як беларускага брытанца. Англія – вельмі кансерватыўная краіна, усіх выхадцаў з былога СССР брытанцы схільныя называць рускімі. Ім усё здаецца, што тут пустыя паліцы ў крамах, не хапае прадуктаў. Куды прасцей з ірландцамі, шатландцамі і валійцамі: ім дастаткова адзін раз паведаміць, што ты беларус, і больш цябе ніхто рускім не назаве.

**– Вы пераклалі Біблію, зрабілі велізарную працу. Значыць, у вас павінна быць нейкая далёкасяжная мэта. Курды змагаюцца за сваю дзяржаву, палесцінцы змагаюцца. А цыганы? Ці былі спробы стварыць сваю краіну Цыганію?**

– Такія намаганні былі. У 1930-я гады існавалі планы стварэння цыганскай дзяржавы ў Эфіопіі. Прыкладна тады ж усіх цыганоў СССР спрабавалі звезці ў паселішча Раманістан паблізу сібірскай станцыі Тайга. А перад гэтым існавалі планы стварыць цыганскую аўтаномію ў Смаленскай вобласці, ва Украіне, на Каўказе. На жаль, сёння ў цыганоў няма імкнення стварыць сваю дзяржаву. Жывучы ў розных краінах, яны не падтрымліваюць паміж сабой кантактаў. Так што краіна Цыганія пакуль застаецца ў марах. У цыганоў няма дзяржавы, войска і паліцыі, яны могуць спадзявацца толькі на Бога, ён іх адзіны абаронца.

**Міхась СКОБЛА.**

ЗАПРАШЭННЕ

# Усе на баль!

*У ноч з 13 на 14 студзеня ў беларускім Вялікім тэатры оперы і балета пройдзе Вялікі навагодні баль.*



*«Гэты баль адметны якраз тым, што ён юбілейны: праходзіць у Вялікім ужо ў 10-ы раз!* – гаворыць **Вольга Кастэль**, балетмайстар-пастаноўшчык, лаўрэат міжнародных конкурсаў. – *Гэта немалая лічба і для самога праекта, і для тэатра ў цэлым, і яна сведчыць пра тое, што гэта была добрая ідэя – і ўсё атрымалася. Вялікі навагодні баль у Вялікім палюбіўся гледачам! Мне здаецца, працэнтаў 60 з тых, хто збіраецца ноч з 13 на 14 студзеня правесці ў тэатры, наведалі і дзевяць папярэдніх баляў. А гэта шмат аб чым кажа. Бо ў наш час бясконцага працэсу лічбавай трансфармацыі грамадства і залежнасці ад інтэрнэту складана і ўявіць, каб чалавек захацеў правесці цэлую ноч на балі, а да гэтага хадзіў два з паловай месяцы на заняткі! Гэта несумненны поспех!»*

*«Юбілейны год патрабуе нестандартнага падыходу, таму цуды пачнуць адбывацца адразу ж, на балі, які ўрачыста адкрые гэты вечар,* – распавядае **Алена Балабановіч**, вядучы рэдактар аддзела інфармацыі Вялікага тэатра. – *Рэжысёрам хацелася б уразіць элементамі імерсіўнага тэатра, калі артысты, нібыта з ніадкуль, з'яўляюцца ў натоўпе гледачоў, узаемадзейнічаючы з публікай і ўцягваючы яе ў сваю гульню.*

*Другі баль, які адкрыецца пасля поўначы, напэўна, здзівіць гледачоў сваім музычным рашэннем, якое будзе больш чым дэмакратычным. Гледачоў чакае спалучэнне класікі з джазам, свінгам і нават рок-н-ролам! Сумна не будзе!»*

Дарэчы, тэма балю патрабуе таго, каб гледачы прыходзілі ў тэатр у масках. Уладальніка самай незвычайнай, арыгінальнай маскі пасля поўначы абяцаюць прыз.

Жывыя скульптуры, шахматны «аўтамат» і фотабудка, дзе можна зрабіць маментальныя здымкі на памяць; мім-віктарына, танцавальны батл і караоке з зоркай; салодкая зона з шакаладным фантанам і снежнае шоу; астролагі, майстры таро, хіраманты і – упершыню! – спецыялісты па бодзіграфу – усё гэта чакае гледачоў на працягу ночы.

Месцы ў камернай зале традыцыйна трэба займаць загадзя: на малой сцэне пройдуць адразу тры неверагодныя канцэрты.

Завершыцца Вялікі навагодні баль у Вялікім каля 4 раніцы.

**Аліна ВЕТРАВА.**

ПРЭМ'ЕРА!



# «Тэма Ірландыі не чужая Купалаўскаму тэатру»

*Спектакль «Вешальнікі», прэм'ера якога адбудзецца 15 і 16 студзеня, абяцае стаць адной з самых цікавых і доўгачаканых пастановак Купалаўскага тэатра.*

«Вешальнікі» створаны паводле п'есы аднаго з найбольш значных драматургаў сучаснасці Марціна МакДонаха, які вядомы не толькі працай з тэатрамі, але і рэжысурай такіх фільмаў, як «Тры білборды на мяжы Эбінга, Місуры», «Залегчы на дно ў Бругэ», «Сем псіхапатаў».

*«Тэма Ірландыі не чужая Купалаўскаму тэатру*, – гаворыць загадчыца літаратурна-драматургічнай часткі тэатра **Вольга Бабкова** *(на здымку)* пра сувязь МакДонаха з беларускім кантэкстам. – *Варта згадаць наш спектакль «Translations» паводле твора ірландскага драматурга Браяна Фрыла ў пастаноўцы Мікалая Пінігіна, прысвечаны канфлікту Ірландыі з Англіяй, а таксама спектакль «Самотны захад» у рэжысуры Паўла Харланчука-Южакова.*

*Марцін МакДонах нарадзіўся ў Ірландыі, а жыве ў Англіі. Дарэчы, тыповы лёс ірландскага творцы. На сённяшні дзень МакДонах самы вядомы і паспяховы драматург, рэжысёр, прадзюсар з тамтэйшых краёў. Цікава, што яго творчы лёс чымсьці нагадвае лёс амерыканскага пісьменніка Джэка Лондана. Пасля працяглага непрызнання наступіў практычна феерычны поспех – МакДонаха ставяць ва ўсім свеце, параўноўваюць яго з Шэкспірам. Знакамітыя рэжысёры прызнаюцца, што ад твораў МакДонаха займае дух.*

*У Беларусі апошнім часам МакДонаха таксама пачалі ставіць вельмі актыўна.*

*Творчасць МакДонаха звязваюць з такімі жанрамі, як чорная камедыя ці трагедыя. Сам ён кажа, што ніколі не здолеў бы паставіць рамантычны спектакль ці зняць рамантычны фільм, бо мае занадта змрочнае пачуццё гумару. Яго вострасюжэтныя творы абрынаюць гледача ў вусціш памежнай сітуацыі, вострага эмацыйнага стану, і, што цікава, людзям гэта страшэнна падабаецца, бо ўсе героі МакДонаха ўніверсальныя, пазнавальныя. Наколькі вядома, зараз МакДонах працуе над праектам пра змаганне Ірландыі за незалежнасць. Так, Ірландыя не адпускае ірландцаў, дзе б яны ні знаходзіліся».*



Як паведамляе сайт Купалаўскага тэатра, спектакль «Вешальнікі» таксама адметны сваім зоркавым акцёрскім складам: народная артыстка Беларусі **Зоя Белахвосцік**, заслужаныя артысты Рэспублікі Беларусь **Ігар Дзянісаў, Аляксандр Падабед, Ігар Сігоў**, а таксама іншыя таленавітыя купалаўцы ўсіх пакаленняў: **Юльяна Міхневіч, Алег Гарбуз, Аляксандр Зелянко, Дзмітрый Есяневіч, Мікалай Кучыц, Павел Паўлюць, Дзмітрый Тумас, Павел Астравух.**

Для рэжысёра **Віталя Краўчанкі** «Вешальнікі» стануць першым досведам працы на купалаўскай сцэне.

**Вера ВІР.**

**На здымках: сцэна са спектакля; Ігар Дзянісаў у галоўнай ролі.**

ТАКОЕ ЖЫЦЦЁ

# Як інвалід з Ваўкавыска вылечыў дэпрэсію працай у Вроцлаве…

*«Народная Воля» неаднойчы друкавала гісторыі людзей, якія з'ехалі з Беларусі за мяжу ў пошуках працы. Гэтым разам матэрыял пра інваліда II групы, які ў пошуках лепшай долі вымушаны быў перабрацца ў суседнюю Польшчу.*

## Змяніць жыццё

Віталь Гуляк нарадзіўся і вырас у Ваўкавыску. Ён інвалід ад нараджэння – дзіцячы цэрэбральны параліч ускладніў магчымасць хадзіць. У родным горадзе скончыў школу, затым аграрны каледж. Аднак, калі з'явіўся ў Ваўкавыскі райвыканкам за размеркаваннем на працу, чыноўнік ад сельскай гаспадаркі, успамінае Віталь, параіў яму спачатку выздаравець, а потым ужо прыходзіць.

Вядома ж, Віталь згадвае пра гэта з крыўдай, хоць і імкнецца не паказваць віду. Расказвае, што тады атрымліваў ад дзяржавы дапамогу па інваліднасці прыблізна ў паўтара мільёна недэнамінаваных рублёў. Жыў разам з маці ў гарадской кватэры.

*«Фактычна я некалькі гадоў сядзеў на шыі ў маці, якая ўвесь час была беспрацоўнай і зарабляла толькі на сезонных работах*, – згадвае Гуляк. – *І ў маці дрэннае здароўе, мы жылі ў такой страшэннай нэндзе, што нават цяжка ўзгадваць»*.

Праўда, увесь гэты час Віталь імкнуўся нешта змяніць у сваім жыцці. Тры гады навучаўся ў Польшчы, аднак скончыць навуку не здолеў. Спрабаваў каля года жыць самастойна за мяжой, але ў выніку вярнуўся дадому.

Нягледзячы на сваю інваліднасць, Віталь актыўна займаецца грамадскай дзейнасцю. Ён сябра Аб'яднанай грамадзянскай партыі, удзельнік шматлікіх палітычных акцый, усё жыццё змагаецца за тое, каб у Беларусі адбываліся свабодныя дэмакратычныя выбары, каб, як і ў іншых краінах, існаваў рэальны падзел улад, дзейнічаў дэмакратычна абраны парламент, існаваў незалежны суд і свабодныя СМІ.




## «Мая інваліднасць мне і дапамагла»

Доўгі час Віталь сядзеў у інтэрнэце і чытаў пра тое, як людзі, якія з'ехалі ў Польшчу, уладкоўваюць там сваё жыццё. *«Аднойчы знаёмы, які там працуе, распавёў, што людзей з інваліднасцю ў Польшчы бяруць на працу ахвотна, паколькі, згодна з іх заканадаўствам, наймальнік вызваляецца ад выплаты падаткаў за інваліда»*, – згадвае Гуляк. Праўда, сам ён доўгі час не рашаўся на ад'езд. Але разумеў, што гэта справа часу, і ў нейкі момант рушыў… Як кажа, ехаў усляпую. На першых парах матэрыяльна дапамог сябра: дазволіў пажыць у яго, пазычыў грошай.

*«Працу я знайшоў хутка*, – распавядае Віталь. – *Хадзіў і збіраў смецце вакол вялікага гіпермаркета. Але мой працадаўца паглядзеў, што з маёй інваліднасцю гэта складана рабіць, і прапанаваў змяніць род дзейнасці»*.

Гуляк размясціў сваё рэзюмэ на адпаведных сайтах і адразу ж пачаў атрымліваць прапановы. *«Мне тэлефанавалі і прапаноўвалі працу ў ахоўнай фірме, у інтэрнэт-крамах, на складах, дзе запакоўваюць прадукцыю*, – згадвае Віталь. – *Шквал тэлефанаванняў! Я выбраў працу касіра ў будаўнічай краме. Хаця вельмі баяўся…»*

Але, як выявілася, баяўся дарэмна, паколькі працадаўцы ад яго нічога не патрабавалі, акрамя жадання навучыць гэтай рабоце. Амаль два месяцы ён стажыраваўся ў краме, а потым пачаў працаваць самастойна.

*«Я ніколі ў жыцці не меў дачынення да гандлю. Там усё ж вялікія грошы, было боязна*, – згадвае Віталь. – *Але, прайшоўшы навучанне, паціху ўцягнуўся і зараз адчуваю сябе на гэтай працы даволі ўпэўнена. Мяне нічога не палохае, я ведаю амаль усё, што ад мяне патрабуецца, а калі ўзнікаюць праблемы, то без боязі звяртаюся да сваіх працадаўцаў з пытаннямі»*.

## Што такое сацыяльная дзяржава

Цяпер спадар Гуляк на добрым рахунку ў сваіх працадаўцаў. А да гэтага ён яшчэ можа карыстацца сацыяльнымі выгодамі. Мае медыцынскую страхоўку. Гандлёвая сетка, у якой працуе, абслугоўваецца ў прыватнай медыцынскай фірме. І гэта вельмі зручна, паколькі не трэба сядзець у чэргах у паліклініцы, урачы ўжо добра ведаюць яго асабіста і ягоную медыцынскую картку.

*«Акрамя гэтага, у медыцынскую страхоўку ўваходзіць карта «Мультыспорт», дзякуючы якой я магу мець практычна неабмежаваны доступ амаль ва ўсе спартыўныя ўстановы Вроцлава*, – распавядае Віталь. – *Займаюся ў фітнес-зале, трэнажорнай зале, плаваю ў басейне, хаджу на масажы і іншыя карысныя для здароўя працэдуры. 1 магу гадзіну бясплатна карыстацца гарадскім роварам. Адчуваю, як змяніўся мой стан здароўя, палепшыўся настрой, знікла дэпрэсія, якая атручвала жыццё ў Беларусі. І за гэта да медыцынскай страхоўкі, якую аплачвае мая фірма, я дадаю ўсяго 20–30 злотых штомесяц»*.

Віталь Гуляк кажа, што заробкі па польскіх мерках у яго нават не сярэднія – ніжэй, але іх усё роўна не параўнаць з тым, што зарабляюць людзі на такой працы ў Беларусі.

*«Мой заробак складае трохі больш за 2 тысячы злотых – гэта болей 500 долараў. Але да гэтага кожны квартал трэба дадаць прэмію – тысячу злотых (недзе 270 долараў) і яшчэ штомесяц дапамогу ад фірмы па інваліднасці, яна складае 180 злотых (прыкладна 50 долараў)»*, – падсумоўвае Гуляк.

Вельмі значнымі з'яўляюцца і тыя выгоды, якія фірма дае яму як інваліду: працоўны дзень не восем, а сем гадзін, а таксама аплачваемы паўгадзінны перапынак падчас працоўнага дня.

## «У Беларусі я самалёта блізка не бачыў, а тут ужо двойчы лятаў»

Паводле назіранняў Віталя, Вроцлаў зараз запоўнены жыхарамі Украіны, якія прыязджаюць сюды ў пошуках працы. З ім пагаджаюцца і мясцовыя СМІ, якія пішуць, што кожны дзясяты жыхар Вроцлава – украінец. Такі масавы наезд працаўнікоў з-за мяжы ўплывае на кошты на жыллё.

*«Знайсці кватэру ў Вроцлаве не так проста*, – распавядае Віталь. – *Апошнія два гады вельмі моцна ўзняліся кошты на жыллё, якое здаецца ў арэнду. Цяпер знайсці пакой за 800 злотых у месяц – гэта калі пашэнціць. Я здымаю пакой у трохпакаёвай кватэры яшчэ па старой цане – за 650 злотых. Праўда, думаю, што цана ўсё ж зменіцца»*.

Што тычыцца харчавання, то беларус лічыць, што яно тут не такое ўжо і таннае, як нам падаецца. Аднак суадносіны паміж тым, колькі чалавек зарабляе, і тым, які працэнт ад гэтага заробку ідзе на харчаванне, не псуе ўражання ад пражывання ў Польшчы: *«Калі далей параўноўваць узровень жыцця ў Беларусі і Польшчы, то варта дадаць, што і вопратка, і бытавая тэхніка – гэта ўсё значна танней, чым у Беларусі. Уявіце сабе такую рэч: у Беларусі я самалёта блізка не бачыў, не тое што набыць квіток і паляцець на ім. А тут я за апошні год ужо двойчы лятаў: у Гданьск і ў Кіеў. І гэта не на апошнія грошы. Хіба мог я сабе дазволіць такое ў Беларусі?»*

Але, заўважае Віталь, нават з веданнем польскай мовы інтэгравацца ў тутэйшае грамадства не так і проста: палякі не забываюць, што ён прыезджы. Аднак спадар Гуляк не імкнецца прыстасавацца, не забываецца на сваю беларускасць і нават падкрэслівае яе: на адзежы абавязкова беларускі сімвал – альбо «Пагоня», альбо бел-чырвона-белы значок. І на гэта, паводле яго назіранняў, мясцовыя людзі рэагуюць з сімпатыяй.

Віталь распавядае, што цікавіцца палітыкай Польшчы: пастаянна чытае прэсу, глядзіць тэлевізар. Кажа, што палітычнай дзейнасцю, як у Беларусі, не займаецца, паколькі не мае польскага грамадзянства, але палітычнае жыццё ў гэтай краіне, на яго думку, нашмат больш разнастайнае і цікавае, чым у Беларусі.

*«Я пакуль толькі магу зайздросціць таму, што ў Польшчы ёсць дэмакратыя*, – кажа беларус. – *Што б тут ні адбывалася, якая б партыя ні прыйшла да ўлады, калі яна не спадабаецца людзям, то праз чатыры гады яе папросту не абяруць паўторна. Тут існуе вялікая магчымасць для людзей – свабодныя выбары, аб чым мы ўсе так марым у Беларусі»*.

На развітанне Віталь Гуляк не без горычы зазначыў, што, прыязджаючы ў Беларусь, толькі больш пераконваецца, што ў бліжэйшыя гады вяртанне на Радзіму для яго будзе бессэнсоўным.

**Міхал КАРНЕВІЧ.**

АСОБА

# «Пра кватэру застаецца толькі марыць…»

*Абсалютна нескладана было здагадацца, што лепшым спартсменам Беларусі 2018 года будзе прызнана алімпійская чэмпіёнка па фрыстайле Ганна Гуськова.*

Алімпіяда, якая прайшла на пачатку мінулага года ў Пхёнчхане, падарыла Беларусі два залатыя медалі – алімпійскімі чэмпіёнамі ў пэўным сэнсе сенсацыйна сталі фрыстайлістка **Ганна Гуськова** і жаночая зборная па біятлоне ў эстафеце.

Натуральна, пры вызначэнні лепшага спартсмена роўных нашай залатой фрыстайлістцы не было.

*«Прыемная навіна, хаця я да тытулаў стаўлюся досыць спакойна*, – распавяла Ганна «Народнай Волі». – *Мая перамога на Алімпіядзе – гэта ўжо гісторыя, прайшло каля года з таго часу. Зараз наперадзе новыя планы і, спадзяюся, новыя перамогі»*.



Пакуль што на спаборніцтвы Ганне не даводзіцца разлічваць. З-за траўмаў яна вырашыла па рэкамендацыі трэнераў і ўрачоў узяць паўзу, каб прайсці паўнавартасны курс рэабілітацыі.

Не вырашылася ў спартсменкі ў мінулым годзе і кватэрнае пытанне, хаця алімпійская чэмпіёнка разлічвала на дапамогу з боку дзяржавы альбо мецэнатаў. Напрыклад, усе пераможцы зімовых Гульняў-2014 атрымалі ў дадатак да прызавых бясплатныя кватэры ад бізнесмена Юрыя Чыжа. Гэтым разам жадаючых падтрымаць залатых медалістаў Алімпіяды-2018 не знайшлося.

*«Я, напэўна, заваявала золата не ў той час*, – з пэўнай крыўдай выказваецца Ганна. – *Хаця не ўтойваю, што таксама не адмовілася б ад кватэры, калі б яе прапанавалі. Нават калі б жыллё можна было набыць не бясплатна, а з нейкай істотнай зніжкай. Крыўдна, што ў гэтым плане вырашэнне кватэрнага пытання для алімпійцаў выбарачнае.*

*Некаторыя могуць сказаць, што Гуськова, маўляў, і так атрымала 150 тысяч долараў прызавых. Але я трэніруюся больш за 15 гадоў, можна сказаць, здароўе спорту аддала. Трэба ж і на будучыню мець нейкі запас, каб затым сябе рэалізаваць. Усе думаюць, што сяджу на куфары з золатам і патрабую ўсё больш. Многія каментатары ў інтэрнэце наогул раяць мне ісці працаваць на завод! Людзі, вы пра што кажаце?! Я вам забараняла не на завод ісці, а фрыстайлам займацца? Дык займайцеся, дасягайце нечага! Кожны выбраў сваё. Нехта спорт, нехта бізнес, нехта завод. Многія такія крытыкі нічога самі не ўмеюць, але вельмі любяць лічыць чужыя грошы.*

*А што тычыцца кватэры – а раптам і на самай справе нехта пагодзіцца мне дапамагчы?.. Няўжо не заслужыла? Але пакуль што пра кватэру застаецца толькі марыць…»*

**Алесь СІВЫ.**

ДАРЭЧЫ

*Паводле апытання «Спортивной панорамы», якое праводзілася сярод журналістаў, **Ганна Гуськова** набрала 840 балаў, яе паставілі на першае месца 42 прадстаўнікі СМІ.*

*Другое месца ў біятланісткі, алімпійскай чэмпіёнкі **Дар'і Домрачавай** (741 бал), на трэцім – пяціборка **Анастасія Пракапенка** (648 балаў).*

*Далей ідуць тэнісістка **Арына Сабаленка** (600 балаў), марафонка **Вольга Мазуронак** (505), лёгкаатлетка **Эльвіра Герман** (398), біятланістка **Надзея Скардзіна** (238), батутыст **Уладзіслаў Ганчароў** (168), лёгкаатлет **Максім Недасекаў** (93), тэнісістка **Аляксандра Сасновіч** (83).*

*Трэнерам года стаў настаўнік нацыянальнай каманды па фрыстайле **Мікалай Казека**, лепшай камандай у гульнявых відах спорту – валейбольны клуб **«Мінчанка»**, у негульнявых відах – **жаночая біятлонная зборная ў эстафеце**.*

